NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr.



# Ніва



№ 11 (55) БЕЛАСТОК, 17 САКАВІКА 1957 г. ГОД II

МАКСІМ ТАНК



Я гэта люблю падарожжа,
З якім і раўняцца не можа
Вандроўка ў любыя Таўрыды —
У казачныя краявіды.

А гэта — вандроўка праз сёлы,
Праз край мой шырокі, вясёлы,
Бясконцыя нівы, дубровы —
У маю беларускую мову.

У родную мову, якая
Усімі вясёлкамі ззяе,
Смалістымі пахне лясамі,
Жывымі звініць галасамі.

О, колькі яшчэ не адкрыта
Адценняў у ёй і блакіту,
Патрэбных народу, паэтам
Каштоўнай руды, самацветаў!

## Пазнай архітэктуру Беларусі



*Дварэц у Гомелі. Выгляд са стараны цэнтральнай плошчы горада.*

# На маю думку

Ужо год, як існуе ў Польшчы Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Мы — беларусы са зразумелай радасцю адзначаем гэты факт, бо як-жа інакш — гэта-ж нашая арганізацыя.

20 лютага г. г. адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Галоўнага Праўлення БГ-КТ, на якім абмеркавана план дзейнасці Таварыства на 1957 год. У плане прадугледжана: арганізацыю новых гурткоў мастацкай самадзейнасці, забеспячэнне іх адпаведным інструктажам, народнымі ўборамі; разгарнуць шырокую дзейнасць па арганізацыі гурткоў Таварыства; арганізаваць два беларускія народныя універсітэты і г. д. Ясна, што гэта ўсё вельмі добрая і проста неабходная дзейнасць.

Задачай гэтага артыкула аднак не з'яўляецца, так сказаць, папулярызацыя гэтых планаў і намераў. У ім хачу звярнуць увагу беларускага актыву на зусім іншую справу.

Аднойчы, будучы ў камандзіроўцы, я чуў такую заўвагу селяніна: «прыязджаў тут адзін да нас з беларускага «камітэта», зрабіў агульны сход, гаварыў пра нейкага Францішка Скарыну і пра веліч беларускай нацыянальнай культуры. Не скажу, — гэта ўсё так. Але мы хочам, каб «камітэт» (Беларускае таварыства — С. Я.), якась дапамог нам, беларусам жыць... цяпер-жа такая цяжкая сітуацыя»... Зразумела, што мой субяседнік не сказаў усяго, што меў на думцы. Але ў яго словах, мне здаецца, заключаецца падставовая слушнасць і асноўны папрок у адрас Таварыства.

*

Беднаму гаспадару часта спатрэбіцца, напрыклад, 100 ці 200 злоты на ўладжанне той ці іншай справы, або на ажыццяўленне якой-небудзь задумы. Мне думаецца, што можна было-б арганізоўваць у вёсках Касы сялянскай самапомачы.

Як я сабе ўяўляю такую касу? Кожны гаспадар, які жадаў бы карыстаць з гэтае касы, уплачваў бы акрэсленыя складчыны выбранаму сярод сябе касіру. Такім касірам мог-бы быць нават і настаўнік. Для парадку, можна было-б выбраць праўленне Касы сялянскай самапомачы, якое ўласцівым чынам размяркоўвала б пазыкі патрабуючым гаспадарам. Можна-б было нават удакладніць пэўны працэнт пры звароце пазыкі.

Хто арганізаваў-бы такія касы? На маю думку, маглі-б і павінны арганізаваць іх гурткі таварыства.

Не з'яўляецца таямніцай той факт, што ў нас існуе беспрацоўе, што шмат людзей не мае працы і гэтым самым, пазбаўлена сродкаў да жыцця.

Не так даўно, на старонках «Нівы» апублікавана цыкл артыкулаў рэд. К. Балінскага пад агульным загалоўкам «Выкрываем мясцовыя рэзервы». Рэд. Балінскі канкрэтна паказваў на магчымасці выкарыстання мясцовай сыравіны, як: лаза, гліна, торф, выраб авечых скур, хатні выраб дываноў, ходнікаў, фіранак і інш. У такіх вырабах адчувае вялікую патрэбу не толькі горад але і вёска. У многіх выпадках гэту ініцыятыву пераймаюць розныя новаарганізаваныя кааператыўныя аб'еднанні.

А чаму-б Беларускаму грамадска - культурнаму таварыству не заініцыяваць гэтай вельмі карыснай і вельмі патрэбнай справы?! Ці не можна было-б прыступіць да арганізавання палявых цагельняў, чарапічных прадпрыемстваў, вырабу дываноў, ходнікаў ды-й наогул, — саматужнай прамысловасці. Варта было-б паспрабаваць дабіцца адмены пастановы Міністэрства лёгкай прамысловасці адносна арганізоўвання вясковых гарбарняў. У гэтым-ж напрамку ёсць вялікія вытворчыя мажлівасці.

Як ахвотна людзі прыступілі-б да гэтай справы — залежала-б ад гібкасці арганізацыйнай сістэмы і канкрэтнасці перспектыў. А што такая ахвота ёсць — няхай сведчаць шматлікія палявыя цагельні, кафлярні, сарганізаваныя сялянамі, якія пасля перайшлі пад уладанне розных аб'еднанняў Ваяводскага праўлення прамысловасці.

Формы вытворчасці могуць быць самыя рознастайныя — неабходна было-б толькі адпаведна забяспечыць збыт вырабаў. Людзі атрымалі-б працу і грошы — а Таварыства ўвайшло-б у сваю галоўную ролю (да якой зрэшты і паклікана); знайшло-б так патрэбную папулярнасць і дзейную ўсеагульную падтрымку сярод беларускага насельніцтва; мела-б вялікую магчымасць здабыцця ўласных сродкаў да яшчэ шырэйшага разгортвання далейшае дзейнасці; сталася-б сапраўдным арганізатарам беларускага насельніцтва ў барацьбе за дабрабыт.

Хіба не трэба тлумачыць, як шмат залежыць культурны ўзровень чалавека ад яго матэрыяльных умоў!

*

У гэтым артыкуле я закрануў толькі некаторыя, найболей істотныя, агульныя праблемы гаспадарча-культурнага ўздыму беларускага насельніцтва. У наступным артыкуле напішу аб іншых справах адносна будучай дзейнасці БГ-КТ.

Спадзяюся, што на гэтую тэму выкажуцца многія чытачы «Нівы», якіх абыходзяць справы жыцця беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы.

С. ЯНОВІЧ.

**ШТОТЫ ЦЁВЫК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА**

 



# БРЭСТ

Брэст з'ўляецца адным са старадаўніх гарадоў Беларусі. У яго багатае гістарычнае мінулае. Яшчэ ў канцы X стагоддзя на месцы цяперашняга горада былі пабудаваны земляныя і драўляныя ўмацаванні. Першае ўпамінанне аб Брэсце ў летапісе адносіцца да 1017 года.

Пасля працяглай барацьбы Брэст у XIV стагоддзі быў захоплен літоўскімі феадаламі, а ў 1569 годзе далучан да Рэчы Паспалітай.

З мэтай абароны заходніх граніц Расійскай дзяржавы Брэст у 30-х гадах XIX стагоддзя быў ператворан у адну з важнейшых крэпасцей Расіі на Захадзе.

Больш хуткі рост горада пачаўся пасля будаўніцтва чыгунак, якія злучылі яго з цэнтральнымі раёнамі Расіі і Украіны. Колькасць насельніцтва павялічылася ў 1910 годзе да 53,3 тысячы. Горад па колькасці насельніцтва выйшаў на чацвёртае месца ў Беларусі пасля Віцебска, Мінска і Гомеля. Аднак прамысловасць у Брэсце значнага развіцця не атрымала, ён меў пераважна гандлёвае і ваеннае значэнне.

Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, Брэст адным з першых падвергся нападу гітлераўскіх акупантаў і быў вельмі разбуран. Абаронцы крэпасці, акружаныя з усіх бакоў ворагам, пазбаўленыя прадуктаў харчавання і вады, больш месяца змагаліся з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, праявіўшы выключную мужнасць і гераізм.

Пасля вызвалення Брэста Савецкай Арміяй горад быў хутка адноўлен. Былі адбудаваны і ўведзены ў строй многія прадпрыемствы, у тым ліку мясакамбінат, лікёра-гарэлачны і малочны заводы, швейная і трыкатажная фабрыкі, промкамбінат, харчкамбінат і г. д.

За гады пятай пяцігодкі прамысловасць Брэста павялічыла выпуск прадукцыі амаль у два разы.

У шостай пяцігодцы прадугледжаны яшчэ больш высокія тэмпы развіцця прамысловасці горада.

Знаходзячыся на важным шляху, які звязвае БССР з Польскай Народнай Рэспублікай і многімі іншымі дзяржавамі Еўропы, будучы буйным чыгуначным вузлом і рачным портам, Брэст адыгрывае вялікую ролю ў знешнегандлёвых сувязях СССР. Недарма кажуць, што Брэст — Вароты Савецкага Саюза на захадзе. Гэта накладвае свой адбітак на гаспадарку горада. Тут ёсць буйныя прадпрыемствы па рамонту рухомага саставу, паравознае дэпо. Значная частка насельніцтва Брэста занята на чыгуначным і водным транспарце і на прадпрыемствах, якія іх абслугоўваюць.

Брэст — канцавы пункт Дняпроўска - Бугскага воднага шляху, па якім перапраўляецца вялікая колькасць розных народна - гаспадарчых грузаў. Ён ператварыўся ў буйны механізаваны рачны порт рэспублікі, у перавалачную базу з чыгункі на рачныя судны і наадварот.

Пасля рэканструкцыі рэчышча Заходняга Буга Польскай Народнай Рэспублікай і з будаўніцтвам на ўчастку ад Брэста да Модліна водападёмных плацін са шлюзамі будзе створан скразны водны шлях, які звяжа Чорнае мора праз Днепр, Прыпяць, Дняпроўска - Бугскі канал, Мухавец, Заходні Буг і Віслу з Балтыйскім морам. Брэст ператворыцца ў порт двух мораў.

Разам з развіццём прамысловасці, расце насельніцтва, хутка мяняецца аблічча горада. Цяпер Брэст па колькасці насельніцтва, займае сёмае месца сярод гарадоў Беларусі. Тут пабудаваны шматпавярховыя жылыя дамы, новыя школы, магазіны, дзіцячыя сады. У розных канцах горада высока ў неба ўзняліся стрэлы вежавых кранаў. Побач з прамысловымі прадпрыемствамі будуюцца ўнівермаг, гасцініца, рэстаран, кінотэатр, камбінат бытавога абслугоўвання, дзесяткі жылых дамоў.

Вялікае значэнне горада як культурнага цэнтра вобласці. За пасляваенны перыяд у ім створаны педагагічны інстытут, чыгуначны тэхнікум, фельчарска - акушэрская і музычная школы, многа агульнаадукацыйных школ.

Поспехам карыстаюцца спектаклі брэсцкага драматычнага тэатра імя Ленінскага камсамола Беларусі. Многа цікавага можна даведацца аб гісторыі, прыродзе і гаспадарцы вобласці ў краязнаўчым музеі. Горад мае шырокую сетку клубаў, кінотэатраў, бібліятэк. Да паслуг моладзі ёсць стадыёны, Дом фізкультуры з вялікімі спартыўнымі заламі і 100-метровай бегавой дарожкай.

Брэст — прыгожы горад. Цэнтральная частка яго мае прамавугольную планіроўку з невялікімі кварталамі, забудаванымі ў асноўным двух - трохпавярховымі дамамі. Багаты ён і зялёнымі насаджэннямі. Шырокія вуліцы абсаджаны ліпамі, таполямі, каштанамі, утвараюць нібы бульвары, цяністыя паркі. Пасярод вуліц імя Міцкевіча і Гогаля праходзяць шырокія бульварна-паркавыя палосы з векавых ліп, каштанаў, клёнаў, белых акацый. Прыгожая цэнтральная магістраль Брэста — вуліца імя Леніна. Па генеральнаму плану рэканструкцыі і развіцця Брэста на тэрыторыі паміж крэпасцю і горадам, праектуецца стварыць новы парк.

На вуліцах Брэста расце нямала дрэў шаўкоўніцы. Сцены многіх дамоў зялёным дываном пакрываюць плюшч, дзікі вінаград. А ў садах аматараў - садаводаў расце і культурны вінаград, пасаджаны абрыкосавыя дрэвы. У горадзе расце і пладаносіць грэцкі арэх. Пасадкі грэцкага арэха на вуліцы Карла Маркса ва ўзросце 15 — 20 год дасягаюць 10 метраў вышыні.

Ф. МАРЦЫНКЕВІЧ



*Новы жылы дом для рабочых папяровага камбіната ў горадзе Добрушы.*

## Для перавозкі ўдзельнікаў Сусветнага фестывалю

Праз Брэст у Маскву для ўдзелу ў VI Сусветным фестывалі моладзі і студэнтаў паедуць палякі, немцы, бельгійцы, галандцы і прадстаўнікі раду іншых краін. Ужо цяпер чыгуначнікі Беларускай магістралі разгарнулі дзейную падрыхтоўку да сустрэчы гасцей.

Для перавозкі ўдзельнікаў Сусветнага фестывалю на Беларускай чыгунцы намечана сфарміраваць 11 спецыяльных паяздоў, якія будуць курсіраваць па маршруту Брэст — Масква. Саставы будуць фарміравацца з суцэльнаметалічных вагонаў новай канструкцыі. Большая частка неабходных вагонаў паступіла ўжо на чыгунку з Калінінскага вагонабудаўнічага завода. У бліжэйшы час чакаецца прыбыццё апошняй партыі вагонаў.

Да абслугоўвання фестывальных паяздоў падабраны спецыяльныя брыгады праваднікоў. Больш 200 праваднікоў займаюцца цяпер вывучэннем замежных моў.

У Брэсце, дзе ўдзельнікі фестывалю будуць перасаджвацца ў чыгуначныя вагоны Савецкага Саюза, пачата будаўніцтва падземных пераходаў паміж пуцямі, падрыхтоўваюцца вакзальныя памяшканні.

## У перакладзе на рускую мову

У планах маскоўскіх выдавецтваў значнае месца займае выпуск кніг беларускіх пісьменнікаў у перакладзе на рускую мову.

У мінулым годзе ў выдавецтве «Савецкі пісьменнік» выйшла трылогія Я. Коласа «На ростанях». Гэта першае поўнае выданне трылогіі на рускай мове.

У малой серыі «Бібліятэкі паэта» выдадзены вершы Я. Купалы. У гэтым-жа выдавецтве выйшлі кнігі: «На Быстранцы» Я. Брыля, «Роднае слова» К. Кірэенкі, «Апавяданні» І. Грамовіча, «Запрашэнне на возера Нарач» М. Лужаніна, «Байкі» Ул. Корбана і інш. Другі раз 150-тысячным тыражом перавыдадзены раман П. Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах».

У планах на гэты год прадугледжана выданне паэтычных твораў А. Куляшова, П. Прыходзькі, К. Буйла і іншых пісьменнікаў. Сярод кніг прозы — творы І. Мележа, М. Лупсякова, М. Ракітнага.

Буйныя мастацкія творы беларускіх аўтараў будуць друкаваць перыядычныя выданні. У прыватнасці, часопіс «Дружба народаў» пазнаёміць сваіх чытачоў з раманам П. Броўкі «Калі зліваюцца рэкі» у перакладзе Н. Грыбачова.

## Суд у БССР

Былы дырэктар раённай нарыхтоўчай канторы Расонскага райспажыўсаюза О. Альшанікава разам са старшым бухгалтарам канторы Ф. Лабасавым, касірам-статыстыкам Е. Курэц, галоўным бухгалтарам райспажыўсаюза А. Ярмола сістэматычна займаліся крадзяжом дзяржаўных сродкаў. Пасля таго, як Альшанікава звольнілася з работы, новы дырэктар раённай нарыхтоўчай канторы М. Пэк таксама ўвайшоў у гэтую злачынную групу.

Пад выглядам атрымання прагрэсіўна-прэміяльных даплат нібыта за выкананне і перавыкананне планаў па нарыхтоўках і закупках сельгаспрадуктаў і сыравіны, хоць у сапраўднасці план сістэматычна не выконваўся, раскрадальнікі за два гады прысвоілі 150 тысяч рублёў дзяржаўных сродкаў.

Рэвізор Віцебскага аблспажыўсаюза П. Спірыдонаў, пасланы ў свой час для праверкі фінансава - гаспадарчай дзейнасці Расонскай раённай нарыхтоўчай канторы, неахайна аднёсся да правядзення рэвізіі, не ўскрыў усіх гэтых крадзяжоў.

Выязная сесія судовай калегіі на крымінальных справах Віцебскага абласнога суда за сістэматычнае незаконнае прысваенне дзяржаўных сродкаў прыгаварыла Альшанікаву, Лабасава і Курэц да дзесяці год пазбаўлення свабоды кожнага. На розныя тэрміны асуджаны Пэк і Ярмола. Рэвізору Віцебскага аблспажыўсаюза Спірыдонаву вынесена грамадскае ганьбаванне. Вярхоўны суд БССР прыгавор абласнога суда пакінуў у сіле.

## Даведнік пра Мінск

У Дзяржаўным выдавецтве БССР выйшаў ілюстраваны даведнік «Мінск». Кніга прызначана для падарожнікаў і экскурсантаў, які наведваюць нашу рэспубліку. Яна будзе карыснай для кожнага, хто захоча азнаёміцца з гісторыяй і сучасным жыццём Мінска, з яго фабрыкамі і заводамі, гістарычнымі мясцінамі, адміністрацыйнымі, навуковымі і культурна-асветнымі ўстановамі.

У кнізе прыводзяцца цікавыя звесткі пра навучальныя ўстановы сталіцы, расказваецца аб рэвалюцыйнай дзейнасці ў Мінску М. Ф. Фрунзе і А. Ф. Мяснікова, аб наведванні нашай сталіцы М. І. Калініным, К. Е. Варашылавым, А. М. Горкім, В. В. Маякоўскім.

## Скарбы зямлі

Чым-жа багата зямля беларуская, які скарб захоўвае яна ў сабе?

— Асабліва велізарныя ў нас запасы стужачных марэнных і азёрных глін, розных пяскоў, — расказвае тав. Аўксенцьеў, дырэктар інстытута геалагічных навук АН БССР. — Ад Оршы і да Асвейскага возера паласой залягаюць даламіты і даламітазаваныя вапнякі, а ў далінах рэк: Сож, Беседзь, Дняпро, Нёман — мергель, крэйда. На гэтай базе ў рэспубліцы шырока развілася прамысловасць будаўнічых матэрыялаў. Шматлікія цагельныя, чарапічныя, кафельныя, вапнавыя і буйныя цэментавыя заводы — Крычаўскі і Ваўкавыскі — працуюць на мясцовай сыравіне і забяспечваюць патрэбы прамысловага і жыллёвага будаўніцтва.

Далёка за межамі рэспублікі вядомы вырабы шклозаводаў «Нёман» Барысаўскага, Гомельскага. Сыравіну для іх выпуску — выдатныя шкляныя пяскі і іншыя мінералы — таксама дае наша зямля. На базе запасаў тугаплаўкіх глін у Рэчыцы пабудаван завод каналізацыйных труб.

Ёсць у рэспубліцы месцанараджэнні крэмню, кааліну, охры, гранітаў, бурага жалезняку.

За пасляваенны час адкрыта многа новых месцанараджэнняў каменных солей, запасы якіх на поўднёвым усходзе рэспублікі неабмежаваныя. У хуткім часе яны з'явяцца каштоўнай сыравінай для хімічнай прамысловасці. Каменныя солі можна выкарыстоўваць і для харчовых мэт. Выдатнай мінеральнай сыравінай для вырабу ўгнаенняў з'ўляюцца чырвоныя калійныя солі. Патрэбу ў такіх угнаеннях мае не толькі Беларусь, але і іншыя рэспублікі. Беларускія геолагі ўпэўнены, што ў хуткім часе яны змогуць рапартаваць аб тым, што на тэрыторыі рэспублікі адкрыты месцанараджэнні іншых відаў каштоўных выкапняў.

Але савецкія вучоныя шукаюць не толькі сыравіны для прамысловасці. Не менш цікавяць іх знаходкі, якія спрыяюць ахове здароўя чалавека, падоўжанню яго жыцця. «Мінская мінеральная» — з такой назвай паявілася нядаўна лячэбная вада тыпу «Есентукі № 4» у магазінах рэспублікі. Свая мясцовая. Раней такую ваду прыходзілася завозіць за сотні кіламетраў.

Вучоныя мяркуюць знайсці мінералізаваныя воды ў раёне возера Нарач. Сёлета Заходняе геалагічнае ўпраўленне Міністэрства геалогіі і аховы нетраў СССР пачне тут бурэнне шчылін.

Многа цікавых мерапрыемстваў намеціў інстытут геалагічных навук на бліжэйшы час. Вялікая даследчая работа будзе праведзена па выяўленню глыбінных структур, даследванню горных парод, адкрыццю новых баз сыравіны для развіцця мясцовай прамысловасці. К канцу гэтага года інстытут сумесна з Заходнім геалагічным упраўленнем створыць карты прагнозаў па важнейшых відах мінеральнай сыравіны — пяску, гліне, карбанатных пародах, неабходных для вырабу вяжучых матэрыялаў і вапнавання кіслых глеб.

Інстытут мяркуе прыняць удзел у правядзенні Міжнароднага геафізічнага года, які пачнецца з 15 ліпеня. Для гэтай мэты набыта ўжо частка апаратуры.

Шырокую сувязь наладзілі геолагі з рознымі краінамі свету па абмену метэарытамі. З Індыі і Амерыкі ўжо атрыманы першыя пасылкі. А туды будуць накіраваны ўзоры рэдкага экземпляра жалезнага метэарыту, знойдзенага ў былым Грэскім раёне. Такі абмен дасць магчымасць стварыць багатую калекцыю метэарытаў свету.

Мільярдамі тон вылічваюцца ў Беларусі запасы торфу, які размешчан буйнымі масівамі. Разведана ўжо каля 6 тысяч тарфянікаў з плошчай прамысловых залежаў амаль у паўтара мільёна гектараў. Па плошчах месцанараджэнняў і запасах торфу Беларусь займае трэцяе месца ў Саюзе.

Торф — важнейшы від паліўных рэсурсаў рэспублікі, сыравіна для хімічнай прамысловасці, каштоўнае ўгнаенне.

Многа цікавых праблем вырашыў інстытут торфу Акадэміі навук БССР. Яго калектыў распрацоўвае метады здабычы з торфу смалы, коксу, гаручага газу. У рэспубліцы намечана пабудаваць завод, які будзе выпрацоўваць з торфу воск.

Разведка нетраў працягваецца.

С. С.



 

